# Круг

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

Таму трэба збіраць кнігу. Да лета ажывіў напісанае ў 20-я — што па захаваным, што па памяці. Назбіралася і свежага. Напісанае ў высылцы, каб не муляла вока цэнзарам, падпісаў 1958 годам... Перадрукаваў і паслаў у Менск у выдавецтва.

Не было задаволенасці. Адчуваў, што не той голас, не тыя мелодыі ў яго цяперашняга. Не дрыжаць, не трымцяць струны.

...

Летам прыйшоў адказ з выдавецтва: прыязджайце пагаварыць наконт кнігі. А там імпэт ягоны патух. Рэдактарам кнігі паставілі Алеся Кучара — крытыка-аглабельшчыка з кагорты Бэндэ. Хоць і далікатна, але пачалося: гэта адкласці, гэта знімем, тут праясніць... Не ўваходзіла ў выбранае многае з найбольш дарагога, любімага. І многае трэба было перайначваць.

— Вы дапрацуйце, спакойна дапрацуйце, дабаўце сюды пра светлае сённяшняе, — ненавязліва шаптаў рэдактар. — Мы ж не прыспешваем, галоўнае — вынік.

— Ды мне ўжо і патрэбна спяшацца, даганяць учарашняе трэба. — Дубоўка напусціў на лоб хмурасці.

— А яшчэ прадмова патрэбна. Будзе добра, калі Глебка напіша. Ён жа ведае...

— Хай напіша, толькі лепш вы з ім — ад выдавецтва — дамоўцеся.

— Добра...

Ад сказанага да зробленага — не адзін крок. Да канца года ўжо і набор зрабілі, і карэктуру далі, а прадмовы не было.

Давялося зноў пасля Калядаў ехаць — улагоджваць справу.

Ды няма ліха без дабра! Толькі сеў у купэ, — адчыняюцца дзверы, заходзіць пара — ён і яна, ужо немаладыя, ціхія. Прывіталіся, скінулі паліто, прыселі. Твар у твар. Мужчына насупраць. Вучоная залысіна, валасы зачэсаны набок, густыя бялявыя бровы, вочы як з мінулага глядзяць...

— Гаўрыла, ці ты?! — Дубоўка ажно прыўстаў ад сподзіву, плечуком выцяўся аб адкідную палічку.

А мужчына зніякавеў, усміхаецца, хоць і вачам сваім веры даць не можа.

Вось так і сустрэліся, праз трыццаць гадоў, колішнія сябрытаварышы — Дубоўка і Гаўрыла Гарэцкі (з жонкай Ларысай).

— Богі-богі!.. Гэта ж колькі я вас не бачыў?! — працягваў, хітаючы галавой, Дубоўка. — Дзе вы, што вы, як вы? А прыгожыя, амаль маладыя!

— Ну, ты ўжо не загаворвайся... Хутка абодвум па шостым дзесятку стукне. І палова гэтага тэрміну, як і цябе, дзе толькі не кідала! — Гаўрыла зірнуў на дзверы купэ, цясней прычыніў іх, і загаварыў цішэй: "З трыццатага, пасля арышту — Салаўкі, Беламорканал, наёмны геолаг, капаў шурфы... Далей — Туломская ГЭС, Кама... У трыццаць восьмым узялі па-новаму. Салікамск, Урал... А ў сорак шостым абараніў доктарскую, хоць судзімасць тры гады таму як знялі..."

— А як хлопцы твае?

— О-о... Дзе яны толькі з Ларысай не былі! Сыны ў мяне малайцы, шукаюць сябе. А ты ж як?

Дубоўка ўздыхнуў:

— Ды амаль як і ты... Што тут расказваць... Нікога, выпадкам, з нашых не бачыў?

— З Ганнай Бабарэкавай перапісваюся. Яшчэ з вайны. Яна ў Кіраве тады жыла, разам з Лёляй, Максімавай жонкай. І вось — ні Адама Бабарэкі, ні Максіма Гарэцкага... І ты — як скрозь зямлю... Вясной сорак трэцяга, калі я апынуўся ў Маскве, заходзіў да тваіх бацькоў, але нікога з іх не сустрэў. Пісаў, але і адказу не было. А тут як хто нас знарок звёў!..

На радасцях яны схадзілі ў вагон-рэстаран па каньяк і прагаварылі да самага ранку. І нібыта з тымі — маладымі — гадамі сустрэліся.

І нібыта самі памаладзелі...

У траўні "Выбранае" падпісалі ў друк, а ў верасні ён ужо трымаў у руках кнігу — у сіняй каленкоравай вокладцы. У гасцініцы — ноччу — перачытаў усю. Было і адчэпнае, было і жывое. Хоць бы гэтая нізка — "Чакае ля берага човен мяне". З дарагім прысвячэннем "Маёй Марылі".

*Куды ні паглянь — над красою краса,*
*да восені хіліцца лета.*
*І кветы ў расе, і на кветах раса,*
*і ў сэрцы паэтавым кветы...*

...

## 4

Пошта прынесла — нібыта з мінулага — ліст ад Анастасіі Паўлаўны Маркавай, па мужы даўно ўжо — Хмары.

Колішняя Наля жыла ў Ленінградзе, дзе ў 1967-м выйшаў у перакладзе на рускую томік яго вершаў і паэм.

І патрапіў ёй на вочы той томік.

І вось адшукала адрас. А да пісьма далучыла верш.

"Осенняя мелодия звучит в душе моей..."

Аднак песняй Дубоўкава душа ўжо не магла адазвацца: стрымана падзякаваў за ўвагу і выслаў з аўтографам выданне сваіх перакладаў Шэкспіра...

...

Як сустрэча са светлым — новы ліст ад Гаўрылы Гарэцкага, сябраў адказ — хуткі і расчулены:

*"Засмуціла нас вестка, што і Марыя Пятроўна, і Ты пакрысе хварэеце, а часам — нават і цяжка нядужаеце.*

*А словы Твае "Адным словам — надышла зіма майго веку" сціснулі сэрца...*

*Зімы ў паэтаў не бывае — дух у іх, і асабліва Твой, не старэе. Ты ўсё яшчэ малады Волат, Асілак, і слова Тваё, і песень Тваіх чакае Бацькаўшчына.*

*Неяк у Маскве ў 1944 годзе выпадкова сустрэўся я на станцыі метро "Бібліятэка Леніна" з Максімам Танкам. Гаманілі пра аднаўленне Беларусі. Гаманілі пра беларускую паэзію і яе будучыню праз 50-100 гадоў.*

*"Хто застанецца незабыўным з беларускіх паэтаў?" І Максім Танк сказаў: "Купала, Колас, Багдановіч, Дубоўка".*

*Дык ці ж маеш Ты права думаць пра сваю зіму? Ты павінен сказаць яшчэ сваё вялікае слова... Братачка, дарагі, пішы вершы, ніхто лепш не напіша. Усе чакаюць, будучыня чакае, моладзь чакае, каб павучыцца ў Вялікага Майстра, у Старэйшага, самага таленавітага..."*

А ў адказ Майстар толькі мудра ўсміхнуўся. Бо ведаў, што ў адну рэчку другі раз ужо не ўвойдзе. І такі цяжар на душы адчуваў — аніякаму волату не пад сілу. І за маладымі ўжо — не паспее.

Ды і якая паэзія — на восьмым дзесятку?! Тут хоць бы ўжо прозай паспець дагаварыць...

## 5

Ноччу не спалася. Хварэла жонка, а лекі скончыліся.

Падскочыў мароз, аж гудзела шкло ў акне.

І трэба ж: вясна, сакавік, а тут — мароз.

Трывожна чакаў раніцы — адкрыцця аптэкі.

Калі адыходзіў, Марыя прачнулася:

— Можа, не хадзі? І без таблетак жыць буду... Холад, яшчэ сам захварэеш.

А ён адно матнуў рукой — і палец да вуснаў: спі, маўляў, не хвалюйся.

На вуліцы ўжо і ліхтары патушылі, і дворнік пачаў на ходніку дзёўбаць рыдлёўкай лёд.

Прывіталіся, і Дубоўка падумаў, што ўжо даўнавата не быў на Беларускім вакзале, куды раней, асабліва летам, калі чыгункай прыязджала ў Маскву шмат беларусаў, з гароднінай, з насеннем, з пазнавальнай гаворкай, любіў ездзіць са сваіх Чаромушак часта.

Пайшоў напрасткі, паўз дзіцячую пляцоўку, каб хутчэй управіцца і вярнуцца дамоў.

Прачнуліся, пачуў, вароны на даху суседняй хрушчоўкі.

І ў ветры ўжо штосьці адліжнае, вясновае... І бадзёрасць незвычайная...

Ён нават не паспеў напачатку зразумець — адкуль гэты пякучы боль па ўсёй назе. Паслізнуўся, выцяўся аб пакрытыя лёдам і снегам прыступкі. І трэба ж — не ўстаць. Пальцы варушацца, а як толькі на калена спрабуе ўзняцца — токам па ўсім целе, ажно да жывата, ажно ў вачах іскрыцца, і пацямнела ўсё...

Яго першым заўважыў дворнік. Ён і выклікаў "хуткую".

Бальніца, шмат святла і сонных хірургаў. Некалькі ўколаў для падтрымкі — і медыцынская канстатацыя: перелом бярцовай косці, патрэбен наркоз — і тэрміновая аперацыя.

Што ж, трэба — дык трэба.

Вось толькі нешта сэрца пачынала марудзіць, збівацца. Яго спрацаванае і надарванае двума інфарктамі сэрца...

Наркоз доўга не мог яго скарыць. Мроілася штось прыгожакаляровае, далёкае. Чуліся галасы. У вачах плылі кніжныя старонкі, радкі. Нава усміхнуўся: як штось вязанае — за нітку, так вось цяпер па радках разбіраўся ў галаве друкаваны тэкст...

А затым ён заснуў — мякка, соладка. Бачыў сябе малым — вечарам у бацькоўскай хаце.

...На вуліцы пасвістваў марозны вецер, а ён сцішыўся ў запечку, каля коміна, наклаў на чарэн, каб не было мулка, старых апранах і цікаваў зверху за тым, што робіць бацька... А ў акне, за агародамі, там, дзе намятала найболей снегу, такая горка!

І ён — на горцы. Узлятае — і становіцца лёгкім, як аблачынка над хатай. Пэўна, расцерушылараздала ўвесь снежны запас, і таму такая светлая... таму такая лёгкая...

Таму такая...

Таму...

*2001, 2003*

***(Поўнасцю раман-біяграфію "Круг" можна прачытаць у сёлетніх нумарах часопіса "Дзеяслоў". Падпісацца на часопіс можна па тэл.: 207-88-17, 207-88-20.)***



*Уладзімер Дубоўка.*

**ВАШ ВОПРОС — НАШ ОТВЕТ**

## Я хочу сына!

*У нас в семье растут две дочери. Очень хотим сына. Говорят, ученые знают, как не промахнуться, а забеременеть именно мальчиком...*

**Ирина К., Брестская обл.**

Да, многие спрашивают, как забеременеть именно мальчиком. И хотя прямая рекомендация вряд ли уместна, некоторые специалисты считают, что результата добиться можно, если зачатие произошло именно в день овуляции. При 30-дневном менструальном цикле наиболее эффективным для зачатия мальчика будет 15-й день. Дело в том, что сперматозоиды с мужским набором живут очень недолго. Зато они более подвижны, чем сперматозоиды с женским набором хромосом. Эту нехитрую математику легко запомнить: на 14,15 и 16-й дни овуляции у вас есть шанс стать мамой мальчика, а в остальные — девочки. Однако этим способом могут воспользоваться только те, кто четко знает свой менструальный цикл.

**ЛЮБОПЫТНО**

## Девочка-рентген подтвердила свои феноменальные способности

Британское издание The Sun получило возможность убедиться в невероятных способностях юной россиянки, обладающей уникальным "рентгеновским" зрением, на собственном опыте. Сначала 17-летняя Наташа Демкина из Саранска ошеломила медиков своей способностью видеть человека насквозь в своей родной стране.

Вместе с сотрудниками британской газеты гениальный ребенок прилетел в Лондон. Результаты эксперимента были опубликованы на страницах *The Sun.* Редакция газеты единогласно решила выбрать для подтверждения экстраординарных способностей саранской девочки репортера Бриони Уорден, которая получила многочисленные травмы в результате несчастного случая. В октябре прошлого года Бриони сбил автомобиль. Девочка все верно рассказала о переломах, повреждениях и что они хорошо заживают.

**Впервые Наташа Демкина ощутила свой дар, когда ей было 10 лет.** Однажды она начала рассказывать своей маме о том, как устроен организм человека. Девочка не знала название многих органов и называла почки бобами, а кишечник — гофрированным шлангом. Перепуганная мать обратилась к специалистам. На приеме у врача *Наташа неожиданно рассказала о строении его организма.* Тогда медики растерялись.

По словам Наташи, у нее есть два зрения. Одно обыкновенное, как у всех нормальных людей, и другое, которое позволяет ей видеть человека насквозь. Девочка способна "разглядеть" органы, определить их состояние, "увидеть" любую клетку, распознать бактерию, вирус, попавший в организм. На второе "зрение" она переключается по желанию, но после долгих сеансов у нее сильно болит голова. Себя юная экстрасенс ни "смотреть", ни лечить не может.

В итоге способности Наташи привлекли внимание английских СМИ. В лондонских газетах появилось несколько заметок, после чего на мордовскую девочку началась настоящая охота.

## Недовольный клиент «рассчитался» с банком ядовитыми змеями

В южноафриканском городе Иоханнесбурге недовольный клиент запустил в банк ядовитых змей. Злоумышленник хотел отомстить банку за конфискацию его автомобиля ввиду непогашенного вовремя кредита, пишут местные СМИ.

По данным газеты "Стар", Абель Манамела после длившейся несколько лет тяжбы с банком "Абса" пригрозил банкирам, что им придется столкнуться со змеями на их рабочем месте. Видимо, ему всерьез никто не поверил, и тогда Манамела принес в банк пять гадюк. Выпустив их перед стойкой отделения банка в центре Иоханнесбурга, злоумышленник скрылся, воспользовавшись паникой. Змеи укусили одного из служащих банка, который попытался их поймать. Его забрали в больницу, а на отлов змей прибыла специальная бригада.

По мнению Манамелы, он не окончательно "рассчитался" с банком. Манамела заявил газете "Стар" о намерении и в остальных его отделениях выпустить змей. Он сказал, что у него имеется еще несколько гадюк, три мамбы и две кобры. Полиция ведет расследование, подозревая Манамелу в попытке убийства. Об этом сообщает РИА "Новости".

## Хотите кофе из кала виверры?

Обеспокоенность по поводу того, что китайские дикие коты виверры могут переносить атипичную пневмонию, привели к тому, что тысячи этих зверьков были убиты. Однако эти страхи никак не повлияли на производство в Индонезии кофе, получаемого с помощью виверр.

"Копи лувак", или "Кофе виверры", приготавливается из плодов кофе, которые прошли через пищеварительную систему этих животных. Используемые с этой целью виверры живут на кофейных плантациях и, как говорят, умеют находить самые лучшие плоды кофе. Они съедают их, переваривают саму мякоть, а зерна выходят с экскрементами. Работники плантаций после этого собирают экскременты, отделяют от них кофейные зерна, отмывают и жарят их. Специалисты говорят, что у такого кофе — уникальный аромат.

"У нашего кофе — интенсивный вкус и еще более интенсивный запах", — говорит Агус Суанто, хозяин кофейни в Джакарте, где подают "Кофе виверры". Он по-прежнему продает этот напиток, несмотря на то, что в Китае сотни зверьков были недавно убиты в попытке остановить вспышку атипичной пневмонии.

**3**

**лютага**

**АЎТОРАК**
Усх. 7.55 Зах. 16.53
Даўж. дня 8.58
Поўня 6 лютага

Сёлета спаўняецца **180 гадоў** з дня нараджэння Ю. Бакшанскага (1824—1863), публіцыста, удзельніка вызваленчага руху

**Рекламу**
**не обязательно доставлять в редакцию, ее**
**МОЖНО**
**вместе с гарантийным письмом**
**заказать по факсу:**
**(017) 206-69-04.**

Редакция журнала "Целитель" глубоко скорбит в связи с безвременной кончиной издателя и главного редактора **МАЛАШКЕВИЧА Владимира Васильевича** и выражает соболезнование Климовец Вере Владимировне, детям, родным и близким.

## Калі вас цікавіць гісторыя...

...У такім разе сядзіба ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" (Мінск, вул.Румянцава, 13) запрашае на пасяджэнні гістарычнага семінара, дзе з цікавымі паведамленнямі аб мінулым і сучасным нашай сталіцы выступаюць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі.

**3 лютага ў 18.00**

Беларускі пісьменнік **Уладзімір Арлоў** распавядзе пра Менск у творах беларускіх пісьменнікаў.

**4 лютага ў 18.00**

Доктар гістарычных навук, прафесар **Анатоль Грыцкевіч** пазнаёміць з гістарычнай тапаграфіяй і тапанімікай Менска.

**5 лютага ў 18.00**

Беларускі пісьменнік **Кастусь Тарасаў** правядзе гутарку пра Менск у творах беларускіх пісьменнікаў.

**6 лютага ў 18.00**

Кандыдат гістарычных навук **Віталь Скалабан** зробіць агляд палітычных партый і рухаў Менска на працягу XX стагоддзя.

**7 лютага ў 18.00**

Беларуская пісьменніца **Вольга Іпатава** звернецца да тэмы "Менск у творах беларускіх пісьменнікаў".

**Запрашаюцца абітурыенты, студэнты, аспіранты з Мінска і бліжэйшых ваколіц, а таксама усе жадаючыя.**

**Сакратарыят Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны".**

## Пасольства ФРГ у Беларусі адкрые візавае аддзяленне

### для прыёму дакументаў на групавыя паездкі дзяцей у рамках чарнобыльскіх праграм

*Прыём дакументаў будзе арганізаваны ў будынку Міжнароднага адукацыйнага цэнтра па адрасе: пр. Газеты "Праўда", 11. Візавае аддзяленне будзе працаваць там з 7 мая па 23 ліпеня. Прыём заяў і выдача пашпартоў будуць ажыццяўляцца з панядзелка па пятніцу з 9.00 да 12.30.*

Візавае аддзяленне будзе прымаць заявы выключна для групавых паездак дзяцей і падлеткаў па запрашэнні чарнобыльскіх ініцыятыў з Германіі, Аўстрыі і дзяржаў Бенілюкса (Бельгія, Люксембург, Нідэрланды).

Каб забяспечыць хуткую і бесперабойную працу ў гэты перыяд, пасольства Германіі просіць усе дабрачынныя арганізацыі і іх прадстаўніцтвы ў Беларусі як мага раней паведаміць візаваму аддзелу дыпмісіі аб запланаваных на лета паездках (плануемая колькасць удзельнікаў, мяркуемыя тэрміны паездак). Пасля гэтага пасольства зможа своечасова паведаміць адпаведнай дабрачыннай арганізацыі дату і час падачы дакументаў. Тым самым можна будзе пазбегнуць стварэння чэргаў.

За апошнія 17 гадоў паміж Беларуссю і Германіяй склалася "унікальная, вельмі шчыльная сетка ініцыятыў і партнёрскіх сувязей, якія маюць адну агульную мэту — аказанне эфектыўнай дапамогі і падтрымкі ахвярам чарнобыльскай катастрофы", зазначаюць у пасольстве ФРГ. Асаблівую ролю пры гэтым адыгрывае запрашэнне дзяцей і падлеткаў з радыеактыўна забруджаных раёнаў на аздараўленчы адпачынак. Тысячы дзяцей і падлеткаў у апошнія гады правялі свае летнія канікулы ў Германіі і іншых краінах Еўрапейскага Саюза, паведамляе прэс-служба дыпмісіі.

Пасольства Германіі ў Мінску "заўсёды надавала і надае асаблівую ўвагу" таму, каб афармленне віз, неабходных для ўезду ў Германію, а таксама Аўстрыю і дзяржавы Бенілюкса, ажыццяўлялася "не бюракратычна і хутка". Менавіта з гэтай мэтай і будзе адкрыта візавае аддзяленне.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Выбух на дачы

Два чалавекі з цяжкімі траўмамі шпіталізаваны ў Брэсцкую абласную бальніцу ў выніку выбуху ў дачным доме ў таварыстве "Мірнае" Брэсцкага раёна.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Упраўлення МНС па Брэсцкай вобласці, на дачы тры мужчыны пераганялі спірт праз патрон процівагаза. Выбух, паводле слоў спецыялістаў, "адбыўся ад узддзеяння знешняй крыніцы запальвання ў выніку рэктыфікацыі спірту".

Гаспадар дачы, 35-гадовы непрацуючы брэстаўчанін, ад выбуху не пацярпеў, а два яго сябры атрымалі сур'ёзныя траўмы. У аднаго з іх адарвана кісць левай рукі, пацярпела левая галёнка, ёсць тэрмічныя апёкі твару, у другога — шматлікія рваныя раны правай галёнкі.

Акрамя таго, у выніку выбуху пашкоджана ўнутраная аддзелка дома, вылецелі шыбы, пацярпела маёмасць.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

**ХОТИТЕ ВЕРЬТЕ, ХОТИТЕ — НЕТ**

## Гиблое место

Есть такая наука — геопатия, которая занимается изучением характера воздействия на человека и окружающую среду геопатогенных и геобиогенных участков или, как их еще называют, зон. Предки наши каким-то образом умели находить такие места, одни из которых называли гиблыми, проклятыми, заколдованными и обходили их стороной, а другие, наоборот, — благословенными и святыми, где строили жилье и храмы.

Увы, о белорусских специалистах, занимающихся изучением геопатогенных зон, слышать не довелось. Хотя фронт работ даже в столице для них имеется.

Трагедия на Немиге 30 мая 1999 года, когда в жуткой давке в переходе на станции метро погибли 53 человека, в основном молодежь, дала повод обвинить во всех смертных грехах и устроителей пивного праздника, и власти города, и даже небеса, разразившиеся вдруг ливнем. Но ведь Немига не вдруг стала этим самым гиблым местом, она им и была. Достаточно вспомнить о знаменитой битве на Немиге в 1067 году. Сейчас не важны исторические подробности: кто на кого и почему с мечом пошел. Важен сам факт, о котором автор "Слова о полку Игореве" сказал, как проклял: "На Немиге снопы стелют из голов... Немиги кровавые берега не добром были посеяны — посеяны костьми русских сынов"... Если верить летописям, то киевские князья всех жителей будущей столицы Беларуси вырезали.

К этому печальному списку нельзя не добавить еще одну трагедию, происшедшую в этом районе города в годы Великой Отечественной войны: Минское гетто, где всего за один день марта 1942 года фашисты расстреляли пять тысяч евреев.

И еще один факт, малоизвестный, может быть, не столь впечатляющий, но в цепи трагических событий являющийся своеобразным звеном и свидетельством о том, что район Немиги является нехорошим для людей местом.

В восьмидесятых годах прошлого века здесь было завершено строительство жилого дома, по тем временам, можно сказать, элитного. ( Воздержусь от указания номера, дабы не злить агентов по недвижимости.) Так вот, в течение года восемь новоселов покончили жизнь самоубийством. Стечение обстоятельств? Или действительно здесь есть что-то **такое**?

Причины возникновения и характер воздействия геопатогенных зон неизвестны. По выводам исследователей, определяются они наличием культовых памятников разных эпох и религий, рассказов о происходивших здесь невероятных событиях, святых и гиблых местах, скоплением подземных вод, геоморфологическими нарушениями: разломами, трещинами, пустотами и еще целым рядом факторов.

Согласитесь, весьма подходит под описание старейшего района города...

## Нехорошая квартира

А как их еще назвать, если в некоторых жилищах минчан творится чертовщина какая-то? И как тут не вспомнить о романе Михаила Булгакова "Мастер и Маргарита". Только ли своими фантазиями руководствовался автор, пригласивший читателя в гости в "нехорошую квартиру", которую незаконно занял Воланд со своей дьявольской бандой?

— До сих пор не могу без содрогания вспоминать о годах, прожитых в этой квартире, — рассказывает Светлана. — Вначале было все хорошо, а потом...

Потом почти всю семью минчанки словно мор поразил. Начали болеть и умирать близкие ей люди, сама она едва выкарабкалась.

— Теперь я убеждена, — продолжает женщина, — что все наши несчастья связаны с этой квартирой.

Тяжело находиться в стенах, где нет близких тебе людей, но все о них напоминает. Квартиру продали. Дом-"сталинка" находится на проспекте Скорины, почти центр города, новый хозяин оказался весьма состоятельным человеком, но...

— Совсем случайно я узнала, что и на эту семью свалились те же беды: болезни, смерти. Злосчастную квартиру опять продали, на сей раз благополучной фирме под офис. Поразительно, но не прошло и года, как фирма обанкротилась. — Светлана разводит руками. — Насколько знаю, сейчас квартира пустует, потенциальным покупателям соседи рассказывают о ее дурной славе, и интерес к ней тут же пропадает.

Предрассудки, суеверия, мистика? Не знаю. Может быть, излучения геопатогенной зоны клином сошлись именно в этом месте или... Булгаков, наверное, нашел бы более художественное объяснение. Правда, у Светланы есть своя версия:

— Дом ведь строили после войны пленные немцы. Думаю, кто-то из строителей умер или его убили, а труп замуровали в одну из стен, они же такие толстые. Вот его душа, не нашедшая успокоения, и мстит живущим в этой квартире...

**Виталий ЧИЖОВСКИЙ.**

### От автора:

Если нет убедительных доводов, возникают предположения, иной раз фантастические. Чтобы их опровергнуть либо подтвердить, требуются специальные исследования. Но кто ими будет заниматься? К месту сказать, карта геопатогенных зон есть у Москвы, и проектировщики с ней сверяются при проектировании жилых и промышленных объектов. А в Германии, к примеру, еще в 30-х годах прошлого века ученые обратили внимание на влияние "неких земных лучей" на здоровье людей и пришли к выводу, что от 60 до 100 процентов онкологических заболеваний связано с тем, что больные длительное время спали или работали в местах действия геопатогенных излучений. Болгарские специалисты считают, что учет геопатических особенностей местности позволяет повышать урожайность сельхозкультур без применения "химии". Но таковы выводы одиночек, которых "большая наука" всерьез не принимает.

## Вторник, 3 февраля

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 08.10** "Доброе утро, Беларусь!".
**09.05, 19.05** Сериал **"Мисс Марпл".**
**10.10, 20.05 "Самозванцы-2".** Сериал.
**11.05, 17.30 "Скарлетт".** Сериал.
**12.10** "Зона Икс".
**12.25** Детектив **"Человек из черной "Волги".** (Беларусьфильм).
**14.20** "Одноклассники".
**15.15** Сериал **"Вспомнить все".**
**16.05** "5х5".
**17.05** Сериал **"Неугомонный Диди".**
**18.30** "Шпилька".
**21.00** Панорама.
**21.50** Комедия **"Год кометы".** (США, 1992 г.).
**23.30** "Любой каприз".

**ОНТ**

**07.00** "Наше утро".
**09.00, 18.00, 20.30, 22.55** Наши новости.
**09.05, 19.10 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**09.50, 22.00** Сериал **"Следующий" ("Next-3").**
**10.40** Дисней-клуб.
**14.55** "Город женщин".
**15.40** Сериал **"Берег мечты".**
**16.30** "Угадай мелодию".
**16.55** "Большая стирка".
**18.10** "Дом".
**20.00** Время.
**21.00** Сериал **"Моя граница".**
**22.55** Наши новости.
**23.05** "Не только о футболе".
**23.25** Тайны века.
**00.05** "На футболе".

*Оборудование для* **ПРАЧЕЧНЫХ и ХИМЧИСТОК**
**КОМПРЕССОРЫ** *воздушные, газодувки, пневмооборудование, запчасти, пневмофильтры, воздухосборники*
**ТЕПЛООБМЕННИКИ** *пластинчатые,* **КТП, КРАНЫ ДРОВОКОЛЫ**
*Для покраски: агрегаты* **ФИНИШ, ВАГНЕР** *краскораспылители, запчасти*
**РЕМОНТИРУЕМ,** *обслуживаем оборудование прачечных и химчисток*
**Тел: (8-0172) 31-42-69, 69-38-11**
**Тел/ф (8-0172) 68-62-21**

**РОССИЯ**

**07.45, 19.55** Сериал "Подари мне жизнь".
**08.50** "Короткое замыкание".
**09.50, 23.15** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**10.30, 19.30** Местное время. Вести-Москва.
**10.50** "Что хочет женщина".
**11.50, 21.00** Сериал **"Неотложка".**
**16.10** Сериал **"Кобра". Антитеррор". "Охота на первого".**
**17.00** Сериал **"Спас под березами".**
**17.55** Сериал **"Тайны следствия".**
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**22.00** Вести+.
**22.20** "Как Сталин снимал кино".
**23.30** Фильм **"Радиоволна".** (США, 2000 г.).

**НТВ**

**09.00** Сегодня утром.
**09.25** Дикий мир.
**10.15** "Страна советов".
**11.00, 16.00, 18.00** Сегодня.
**16.30** Сериал **"Она написала убийство".**
**17.35** Протокол.
**18.40, 22.45** Сериал **"Стилет".**
**19.50** Сериал **"Я все решу сама".**
**21.00** "Страна и мир".
**21.35** Красная стрела.
**21.45** Сериал **"Без следа: он видел, она видела".**

**ЛАД**

**06.30** Euronews.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Есть только миг...".
**08.35** Футбол. Чемпионат Италии.
**09.40** "Пой, душа!".
**10.05, 18.30** "Между нами, женщинами".
**10.30, 21.15** Сериал **"Грешная Анхелика".**
**11.15, 13.20** "Обычный необычный день".
**11.50** Мелодрама **"Ученик".** (Франция).
**13.50** "Здоровье начинается дома". Мультфильм.
**14.10, 15.15** "Не зевай!".
**14.50** Сериал **"Зеркало, зеркала".**
**15.25** Тележурнал "Бум".
**15.55 "Неизвестный Наполеон".** Сериал.
**16.25** "Творцы".
**16.55** "Ностальжи".
**17.25** "Спорт — это жизнь". Док.фильм.
**17.35** Сериал **"Возвращение Шерлока Холмса".**
**18.50** Фильм **"Овод".** 1-я серия. (СССР, 1980 г.).
**20.15** Колыбельная.
**20.30** "Дела семейные".
**22.05** Сериал **"Проклятый уютный дом".**

**ТВ ЦЕНТР**

**05.00** Информационно-развлекательный канал "Настроение".
**07.45** Газетный дождь.
**07.55 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**08.40, 19.55 "Клетка".** Сериал.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.05** "Момент истины".
**12.05** Доходное место.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кестер".** Сериал.
**14.30** Я - мама.
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30** Идущие вперед.
**16.00 "Тайны Ниро Вульфа".** Сериал.
**17.15** Очевидное - невероятное.
**18.00 "Разлученные".** Сериал.
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.00** Лицом к городу.
**21.45** "Валерий Чкалов". Док.фильм.
**22.20** Времечко.
**22.50** Петровка, 38.
**23.30** Серебряный диск.
**23.50 "Игра в кости".** Сериал.
**00.40** "Синий троллейбус".

**СТВ+RenTV**

**06.25, 15.40 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры в космосе".** Сериал.
**06.50** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50** "СТВ-спорт".
**08.15, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**08.30, 13.35** "Технология".
**08.40** Боевик **"Как украсть миллиард".** (США, 2003 г.).
**10.20** Столичный футбол.
**10.45** "Добро пожаловаться...".
**11.00** "Дикая планета".
**11.30** "Пока горит свеча".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Диалог со всем миром".
**13.50 "Клетка".** Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или Обыкновенное РоЖдество".** Сериал.
**15.15** "Рыцари света". Мультсериал.
**16.00** "Ежик в тумане". Мультфильм.
**16.15** "Кадровый вопрос".
**17.00 "Агентство".** Сериал.
**17.30 "Вовочка-2".** Сериал.
**18.15** "Здравствуйте, доктор!".
**18.30 "Конференция маньяков".** Сериал.
**20.00** "СТВ-спорт".
**20.15** "Тема дня".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Закон и криминал".
**20.55** Мелодрама **"President и его женщины".** (Россия, 1996 г.).
**23.05** "Горячий лед".
**23.35** "Технология".
**23.45** "Новости СНГ".
**00.00 "Бес в ребро".** Сериал.

**EUROSPORT**

**09.30** Сноуборд.
**10.00** Еврологолы.
**11.00** Триал.
**11.30** Футбол.
**12.30** Еврологолы.
**13.30** Снукер.
**15.00** Футбол.
**17.00** Снукер.
**19.00** Футбол.
**20.00** Фигурное катание.
**00.00** Олимпийский журнал.
**00.45** Снукер.

**8-Й КАНАЛ**

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45** Худ.фильм **"Путь к причалу".**
**19.15, 20.40** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**19.25** Телемагазин.
**19.30—20.40** Сериал **"И это все о нем...".**
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Цаук" приглашает...
**21.10** Худ.фильм **"Поворот".**

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.

Ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць ЛВ №448 ад 15 мая 2000 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны ААТ «Красная звезда» з дыяпазітываў заказчыка. 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 550 экз. Заказ № 579.